* * *

О, я не ў сон глухі закута,
сумота сэрца не скрабе,
было турмою і атрутай
усё, дзе не было цябе.

Апошні снег...
Ён, як збавенне
ад спраў, што марнымі былі.
Ты мне вярнуў ізноў натхненне,
бязмежнасць неба і зямлі.

Як многа стала летуценняў,
бы ўночы зорак залатых,
і як чароўны міг цвіцення,
мне сінява вачэй тваіх.

Капрыз свавольнае прыроды
ці дня настылага адчай? —
Чуць не хачу, з якой нагоды
гукнуў ледзь чутна: «Прывячай...»

Ёсць тлум жыццёвай крутаверці,
ёсць ачышчальнае святло,
і не закрэсліць нават смерці
таго, што радасцю было.

Так хораша ўсяму здзіўляцца,
бы рэчка ў пустку зацякла,
а пацеркі ў халодных пальцах
усё дрыжаць, нібы са шкла...

*1985*

## Рабінавая гронка

Рабіна гронкай распаліла
світанак там, дзе лес радзее,
я сёння зноўку паўтарыла
урок няспраўджанай надзеі.

Ты не адзін, а я зірнула
так, як глядзяць на закаханых,
нібыта ўпершыню адчула
ласкавасць рук, навек адданых.

Паўночны вецер быў лагодны,
і турбавала толькі тое,
што мой світэрак старамодны
залішне змрочным быў са строяў.

Шчаслівы міг чакаць кагосьці,
хацела засмяяцца звонка,
а ты не ўспомніў маладосці...
Бывай, рабінавая гронка!

*1985*

* * *

Нічагусенькі не зменіцца...
Глеба будзе адтаваць.
Будзе месячык над Сенніцай
шклінкай зыркаю ўставаць.

Не віхор з-за небакраю
грозна голас падае,
то з мяне мяне вымаюць
вочы чорныя твае.

Гаварыла: «Не пільную...
А забудзеш — не бяда...»
Думала, цябе шкадую,
выйшла, што сябе шкада.

*1985*

## Мазурка

Адкуль тут мазурка Шапэна?
Галіны да шклін падплылі.
Я вам абяцаю напэўна
вярнуцца сюды хоць калі...

У кожным садку Беларусі
сягоння пазёмка ў гасцях,
раскладваць гады не бяруся,
ды ў нейкім — шчаслівы працяг

начы, дзе блукае Снягурка...
Я думала, гукі з-пад ліп,
а гэта дыхнула мазурка,—
то смех,
            то шаптанне,
                        то ўсхліп...

Як дзіўна жадаць летуценна
таго, што яшчэ не прайшло,
я знікну надоўга, а ў сценах
запыніцца сэрца цяпло...

Апрануты ў белыя буркі
ўсе дрэвы, і кружыцца снег,
падхоплены шалам мазуркі,—
то ўсхліп,
            то шаптанне,
                        то смех...

*1985*

* * *

Дзіўлюся, нібы рэдкай навіне,
зноў голас твой
ці ветру свіст за схілам:
«Хачу, каб ты журылася па мне
і белы свет заўсёды быў нямілым».

Нямілым свет? —
і лотаці, і дрэў,
дзе ўсё цвіло, то раптам адцвітала,
бо я цябе яшчэ тады кахала,
калі пра гэта думаць ты не смеў.

Танюткай вольхі выгінасты ствол
гайдаецца, бы сто ражкоў зайграла...
Толькі тады і бачна хараство,
калі душа адценні ўсе ўвабрала.

*1985*

## За дзень да снежня

Ужо на тры замкі закрыўся жмінда
і недзе перад ложкам ловіць моль,
а па садах згалелых ходзіць крыўда,
я чую — дрэвы скардзяцца на золь.

Слата, слата... а ў позірку чаканне,
бы феерверкам выбухне зіма...
Прымроіцца, як ясны дзень, каханне,
цьфу на яго! Яно заўжды чума.

Гартае свет турбот будзённых кнігу,
нямала ў ёй старонак для мяне,
і круціць лёс, нібы разводдзе крыгу,
не сплю... Чакаю сонейка ў акне.

*1986*

* * *

Не адцвітала доўга бульба ў полі,
хоць на спякоту шчодрым жнівень
быў,
ты абяцаў не забываць ніколі
спатканняў нашых,
дык чаму ж забыў?

Парушу сон палянкі недалёкай,
і заварожыць пошапак ляшчын,
сябе я адчувала б адзінокай,
каб не было ні дрэў, ні аблачын...

Не хоча сэрца прымірыцца з жалем,
ды ўсё гусцей паўзмрок сырога дня,
нібыта ўчора на лясным прагале
згубіла казку лета ласяня...

*1986*

* * *

А ён ляціць, ляціць, як ашалелы,
той ліст, што ападае ў чуйным сне,
дзе ж позірк твой і ясны, і нясмелы,
што сніўся так нядаўна яшчэ мне.

Магчыма, толькі юная цнатліўка
жыве ў ружовым мроіве святла,
а потым і святло з адных урыўкаў,—
я знаю, бо ўлюбёнаю была...

*1986*

* * *

Прыйдзі, прыйдзі...
Я вольная ад спраў.
Спявае ноч, і больш такой не будзе.
Сляды твае прыкрыюць пікі траў,
а ў доме — спяць натомленыя людзі.
Што нам да іх,
                    а ім тым больш —
                                        да нас?
Я — добрая суседка, ты — прахожы,
я ложак свой лілеямі ўпрыгожу,—
прыйдзі! —
Сплывае ў прорву ночы час.
Шукаюць рукі ласкі блізкіх рук,
якую ж радасць дзень пры дні насіла,
што ад тваіх,—
                    усё даўжэй,—
                                        разлук
гатова месяц здзьмухнуць з небасхілу.
Каб стала цёмна, хоць ідзі наўгад
і бойся напароць на нешта вока,
каб ты заплакаў горка між прысад,
успомніўшы, як зараз я далёка.

Прыйдзі й тады... Я пасвячу агнём,
святлом вачэй, і людзі мне... прабачаць,—
прачніцеся, пачуйце, як ён плача,
дапамажыце адшукаць мой дом.

*1986*

* * *

Ты, магчыма, словы перablытаў
і сказаў балючыя таму,
што спатканне першае забыта,—
прывіталі снегіры зіму.

На дварэ даўно пахаладнела,
можа, табе ў сэрца удыхнуў
яры снежань свіст кудасы белай,
каб ты ціхай ласкі не пачуў.

Наша лета доўга адцвітала,
аж пакуль зусім не адцвіло...
Снег ляжыць на вуліцах квартала,
сыдзе ён, і... вернецца цяпло.

У душы народзіцца здзіўленне,
ну няўжо — адлёгся снегапад?..
Дай пабыць тваім крылатым ценем,—
словы тыя забяры назад.

*1986*

* * *

Папялушка! — ўздрыгваюць кусты.
Мілая! — бы шкельца заіскрыцца...
Словы, як з мінулага лісты,
Папялушцы ўжо даўно за трыццаць.

Быццам бы праз дымчастае шкло,
гоняць скоры ў адвячорак рэйкі,
хоць яшчэ прасейваюць святло
ўспуджаныя пацалункам вейкі.

Словамі не пэндзлем маляваць,
тут свае адценні, свае гамы...
І цікава мне, як будзеш зваць,
калі прыйдзе ўзрост віновай дамы.

*1986*

* * *

Мільёны дзён мяне кахаў,
мільёны дзён ішоў з нябыту,
з’явіўся ўрэшце і сказаў:
«Як дзіўна, мною ты забыта».

Пачнуць на горцы наракаць
на ўрокі юныя мінчане,
што ж, я змагла б ім выкладаць
прадмет пад назваю «маўчанне».

Маўчу... Ні клопатаў, ні спраў,
прайшоў праз сэрца, выйдзе ў дзверы
той, хто мільёны дзён кахаў
і... ў гэта сам не змог паверыць.

*1986*

## Дзве гадзіны навагодняй ночы

Не д’яблік з чараўнічай табакеркі,
а вечар шчодры ўсім раздаў дары...
Дзяўчынкам — лялькі,
хлопчыкам — цукеркі,
а мне — твая пяшчота да зары.

Сукенак жар, усмешкі, як пагоня...
Сярод знаёмых твараў ты адзін,
хто расказаў маёй душы сягоння
ўсю радасць святу дадзеных гадзін.

Магу смяяцца, лёгенька кружыцца
пад позіркам, што ўзнёс мяне да зор...
Ці поўні бляск, ці цацка заіскрыцца,
ў паглядзе — пал,
адчайнасць
і дакор...

«Люблю цябе...» — выводжу на
сурвэтках,
люблю цяпер... Хацелася б — заўжды.
І твар хаваю ў папяровых кветках,
і чую пах духмянай рэзеды.

*1986*

## Успамін

О як з пяшчотаю знявер
змагаўся мужна,
пялёсткі ціха за каўнер
злятталі дружна.

Нібы над кропелькай віна,
пчала кружыла...
І згадка даўняя адна
да слёз смяшыла.

Крысо намоклае плашча,
і плюшч на вежы,
і дотык Вашага пляча
мяне бянтэжыў.

Плот захінаў густы бружмель,
і над верандай
цяжкою сеткай віўся хмель,
звісаў гірляндай.

У знерухомелай красе
драмала вецце
і патанала пакрысе
ў гарачым шэпце...

*1986*

* * *

Пераплятуцца гукі «дж» і «дз»
дзівоснай нашай мовы ў песнях лета,
і страказе свавольнай на вадзе
так схочацца ў адной з іх быць апетай.

Заўваж, дрыжыць рука ў тваёй руцэ,
цень ад вярбы на цёплым парапеце,—
і ў гэтых сказах лёгенькія «ц»,
нібы званочкі ў нашым першым леце.

А ты маўчыш, хто ж навучыць пасмеў
цябе, што мова наша без дыхання,
што, як глухі, застраглы ў горле спеў,
яна даўно на грані вымірання.

О, калі б гэтак... Як дазнаўся б ты,
што тут, дзе пчолы водзяць карагоды,
між гэтай пракаветнай пекнаты
хачу твой голас вабны чуць заўсёды.

*1986*

* * *

У час вясновых шумных вод
ручай шукае ручаіны,
а мы з табой як дзве краіны,
што варагуюць з году ў год.

З палёгкаю ўздыхнуць палі
і скінуць зноў увосень квецень,
што б ні мянялася на свеце,
душа журбой не адбаліць.

Бо не прыкрыешся маной,—
вітаемся, бы яд глытаем,
і самі, бедныя, не знаем,
той яд — ад прыкрасці адной.

І ўжо якое там цяпло!
Як кажуць, наш цягнік праехаў...
Ды, ўпартыя, мы дзелім рэха
таго, што песняй быць магло.

*1987*

* * *

Разлічваць на які яшчэ прыём?
За шчырасць — нечаканая адплата.
Ён ува мне пабачыў дыпламата
і ганарыцца гэтым адкрыццём.

А як жа тое, што было спярша,—
разгубленасць і позіркаў, і рухаў...
Ці трэба строгасць, дзе пяе душа,
ды каб жа ён душу маю паслухаў!

Нібыта за шкляной стаіць сцяной,—
ад пільных спраў то ўзрушаны, то грубы.
У сны аддаў пяшчоту рук і губы,
як люба ён гаворыць там са мной.

І хоць жывём пад небам мы адным,
яму ўжо аніяк не здагадацца,—
я знаю столькі тайнага аб ім,
што нам ніколі лепш не сустракацца.

*1987*

## Снег

Навошта снег, калі яшчэ сасне
так радасна ў траву страсаць ігліцу...
І золаку заспанаму ў паўсне
карціць абвеяць водарам сталіцу.

А снег ідзе... Развейваючы ў дым
усё, што мець хацела пажыццёва,
як непазбежны напамін аб тым,—
у змене дзён,
да змены будзь гатовай.

І я гатова. Спраўна хлусіць хлус,
душа ў руціне, слова — ў пазалоце,
а снегу што? Ён ляжа, як абрус,
ён не дарадчык звадзе і самоце.

І пойдзе ўсё спачатку...
На другім
узлёце і аўторак, і нядзеля,
і нешта, што здалося дарагім,
завершыцца ізноў абвальнай дзеяй.

А снег ідзе... Яго і часу збег,
як перамена звыклых дэкарацый.
Тэатр дваіх! Ні рэплік, ні авацый!
І ўсё ж...
І ўсё ж... Навошта гэты снег?

*1987*

# Пачуццё

Што ў пачуцці,
                                    што нам даецца жарам,
абуджаным каханнем да жыцця...
У ім няма спрадвеку адкрыцця,
прырода адарыла гэтым дарам.

Ёсць іншае...
                              і што даверыць сказу —
замілаванасць, роспач ці спакой?
Яго ў сабе пачуеш не адразу,
а з'явіцца — ўжо назаўжды з табой.

Калі ў асенняй дымцы неба стыне,
калі рабіны горкія гараць,
нагорнецца, навернецца, нахлыне,
і ты не знаеш, як яго назваць.

*1987*

* * *

Разрасліся шумлівыя кроны
стройных дрэў, што растуць на мяжы,
а паблізу гушчэўнік зялёны,
там начуюць ручныя вужы.

Нечаканая казка прыроды...
І, здалося, стагоддзе назад
тут прайшлі нашы лепшыя годы,—
рукі ў рукі, пагляд у пагляд.

Зараслі муравою дарогі,
тут спакой пасяліўся навек,
але колькі пякучай трывогі
можа ўзняць у душы чалавек!

Словам дзёрзкім пакрыўдзіць
не смею
і пяшчотай ужо не прайму...
Што ж ты, мілы, прайшоўся завеяй
па гарачаму лету майму?!

*1987*

* * *

На ўзгорку дуб.
Яму даўно за сто...
І ні на міг не з’явіцца здзіўленне,
як моцна, як упэўнена карэнне
ўздымае над зямлёю дужы ствол.

А людзі...
Годнасць страчана ў адных,
бунтуе ў іншых гордая парода,
па-рознаму ў нас дыхае прырода,
адну загадку даўшы нам на ўсіх.

Наблізімся мы да яе аднойчы.
Без выбару адчуем гэта ўсе:
кранула мудрасць розум наш і вочы,
а сілы пакідаюць пакрысе.

*1987*

* * *

Хлуслівы не прызнаецца ў хлусні,
ён, можа, і не знае, што хлуслівы...
Ён да сваёй дабраўся вышыні
і вышынёю гэтаю шчаслівы.

Ён бачыць тых, хто лье яму ялей,
ён вершыць суд і вызначае лёсы.
І аднаго не знае, што нябёсы
тым часам ад яго далей... далей...

*1987*

* * *

Былі нядаўна дрэвы ўсе ў журбе...
Тут мой партрэт снягамі снежань піша.
Яму не дагадзіла ў нечым ціша,
і побач ён намаляваў цябе.

І ўзнеслася, як трапятлівы гук,
тваё імя адразу ў тыя высі,
дзе серафімы лічаць зорак бісер,
а мы баяцца сталі сваіх рук...

Што прачытае ў позірках зіма,
калі так знемагае кожны дотык!
Мне падказаць спрабуе снежань, хто ты!
Не дыхаю. Я знаю ўсё сама.

Не зразумела толькі, што пасля?
Ты многа курыш. Я маўчу зацята.
Двары пустыя... Ў кожным доме свята.
І святам нам здаецца ўся Зямля.

*1987*

* * *

Ці не пупышкі хіляць голле ўніз?
Напэўна, быць квітнеючаму маю!
Здалося ўсё... канец... я адгараю,
а ты пачаў зноў сніцца, як калісь.

І гэтак добра ранкам уставаць,
у кожнай жылцы дрэмле асалода,—
і дзе ж так навучылася прырода
згасаць,
успыхваць,
зноўку бунтаваць?

Караблік папяровы на вадзе,
дзіцячы смех з паветрам уварвецца,
і сэрца стук... Я знаю, яно б'ецца
так у вялікім шчасці ці ў бядзе.

*1987*

## Надзея

Вяртаць былое — справа дрэнь!
Адно: сябе ў канец замучыш...
Былы каханы — не алень,
яго пяшчотай не прыручыш.
Што ні раблю — не так раблю!
Жыве надзея ў сэрцы горкім,
святлом даўно патухлай зоркі,
што ўсё ляціць, спяшае на Зямлю.

*1988*

* * *

Разлуку ў хуткім часе напрароч,
да самазабыцця любі кагосьці,
ды гэта на ўспамін аб маладосці,
скажы, якая бэзавая ноч?

Пад лопухам хаваецца матыль,
у ценях адмысловых шыр квартала,
я ўсё табе ў мінулым даравала
і позіркам пытаюся: а ты?

Зноў прывыкаю да твайго імя.
Навошта?
Твой уздых цяжкі і горкі.
Мы, як працяг зацягнутай гаворкі,
сказалі ўсё, а яснасці няма.

Ды і якой жадаем яснаты?
І я ж не абяцаю быць адданай...
Схацелася прачнуцца закаханай,—
світанне,
бэз
і як калісьці... ты!

*1987*

* * *

Усё цудоўна! Бусліны клёкат...
Спяшае радасць да кожнай з пакут.
А самы-самы любімы далёка,
а самы-самы балесны тут.

Бывае, што дзень ад начы не святлейшы,
а верыцца — вyслізну неяк з тугі,
ды вось жа маўчыць незваротна — першы,
і цягне ў бездань адчаю другі.

І сочыцца холад па жылах азяблых,
у сэрцы аглухласць адна і жыве,
нібыта штодня зухаваты д'яблік
у бубен ля скроні ўсё б'е і б'е.

*1989*

* * *

Не спадзявайся, а жыві —
спакойна, ўдумліва, як трэба...
і дурасць дурасцю заві,
зямлю — зямлёй,
а неба — небам.

І быць праўдзівая дазволь
душы: ты многа шчасця мела,
а спадзяванне — гэта боль
па тым, што збыцца не пасмела.

*1989*

* * *

Любіць жанчына слыхам...
Стала цёмна ў апошнім акне.
Я тады папрасіла ціха:
«Скажы, ты кахаеш мяне?»

І адказваў ён нешта смехам,
і глядзеў зусім не ўлюбёна,
і доўга смяшлівае рэха
ўпляталася ў кроны клёнаў.

Прайшло пяць гадоў ці болей,
вандроўка тая забыта,
а ён з таго часу ніколі
не глядзіць на мяне адкрыта...

І ўсё позірк такі адчайны,
і дзіўна, што ў ім чытаю
такую празрыстую тайну:
кахаю цябе... кахаю...

*1989*

* * *

Жыву, і, дзякуй, не ў прасторы голай.
Мая душа — скарбонка пачуцця...
Дык што ж ты плачаш, юны мой астролаг,
што тэрміны кароткія ў быцця?

Хай цела — тлен...
Ад тлену не прыбудзе,
ды вырвецца калісь на волю дух!
І што з душы аддаць паспею людзям,
яно і ёсць быцця адвечны рух.

*1989*

* * *

Ведаю, твар мой аднойчы прысніцца,
сон,— як раптоўны апёк...
Будзе гайдацца маёй завушніцай
поўні ледзь бачны краёк.

Назад, у нядаўняе неба кульнецца,
шторкай зацягнеш акно...
Раніцай тою зазнаеш, як п’ецца
з ценем уласным віно.

Прывыклы ўладарыць ва ўсім, анямееш,
ляжаш на сцёрты кілім...
Так толькі жанчына параніць умее,
знікнуўшы назусім.

*1989*

* * *

О колькі крыўды,— ён мой вязень!
Які пагардлівы папрок!
І дом мой для яго — не засень,
а самы-самы санцапёк.

Капрызнік. Блытанік. П’янюга.
Мне гэта бачна і самой,—
я ў ім шукала доўга друга
і стала для яго турмой.

*1990*

# Партрэт жонкі Станіслава Ксаверыя Прушынскага XVIII стагоддзя[1]

Наканавана жыць у высях...
Уладнасці дадаў ёй шлюб.
І вось лаўлю ў застылых рысах
напышлівасць падцятых губ.

Твар асвятляюць шоўк і бісер,
а не ўласцівы ўзросту жар,
і нешта ёсць у ёй ад рысі,
што падпільноўвае ахвяр.

І толькі позірк на партрэце
(як выпісаць змагла рука),
нібыта распісаўся вецер
пялёсткам сінім васілька.

Так зніталіся ў адзіным
паглядзе ўражаных вачэй
і сінь валошкавай радзімы,
і тайны юныя начэй...

*1989*

[1] Невядомы мастак. Касцёл Нараджэння Маці Боскай (1781) у сяле Кемялішкі Гродзенскай вобласці.

## Нішто не вечна...

Мяркуеш, прыкідваеш, скрозь будзе так:
пагодны кастрычнік... Ты рада яму.
А ўжо невядомы нейкі мастак
малюе тваю зіму.

І ты ў прадчуванні нязнаных трывог
зрываеш апошнія кветкі ў букеты,
ды нават яны, як пары той прыкметы,
што ўладна на твой пазірае парог.

Апошнія кветкі... Халодны прамень...
Бліжэй і бліжэй снегавая аблога,
і што ж ты баішся зірнуць у той дзень?
Ён — новы
і прыйдзе як вынік былога.

*1989*

* * *

Лета дыхала месяц грамамі,
слаўся горыччу мокры быльнёг,
і тады менавіта між намі
промень радасці тайнай пралёг.

Неба хмарнасцю змрочнаю днела.
Мне спрыялі маланак агні.
Бессаромна ўсе дні харашэла
на вачах у прымоўклай радні.

І ніхто ў тым не бачыў рахубы,
што глядзела на ўсё, як праз дым.
Падфарбоўвала сцятыя губы
і ўсміхалася думкам сваім.

*1990*

* * *

Калі адчай, хоць закрычы,
калі туга па Вас даймае,
тады мне дамавік іграе,
сама не ведаю, на чым.

Бліскучы клавіш ці струна
пад яго пальчыкам старанна
ўсю ноч, ад вечара да рання,
вызвоньвае — адна... адна.

Уторадь гукам ледзяшы,
а холад толькі холад множыць...
Хто ж зараз зможа растрывожыць
агонь разгубленай душы?!

Ёсць два бакі ў адной мяжы,
і тоіць шлях адзін расстанне:
хтось спадзяецца на спатканне,
а хтось — падкрэслена чужы.

Вунь поўні белая ладдзя
святлом у сум мой уплывае,
мне дамавік яшчэ сыграе,
ва ўсім астатнім — Бог суддзя.

*1989*

* * *

Шалее д'ябал ад сваіх забаў,
не абмінае гэты шал нікога...
Дзе той відушчы, хто б руку падаў,
у ім гатовы свет пабачыць Бога.
Што сеецца,— парою прарасце...
Вось толькі чым? Палеткі скамянелі.
Плыве Зямля, бы стол пасля гасцей,
што ад уласнай жорсткасці схмялелі.

*1990*

* * *

Дыхнула хвояй з-за фіранак,
званцы лясныя стаўлю ў жбан...
Прысніцца колішні каханак,
і ведаю — жыццё падман!

Я на яго даўно не ў крыўдзе,
што мне далёкае імя?
Але таму, хто сёння прыйдзе,
чамусьці веры ўжо няма.

Ні ў чым не ўмее мне пярэчыць.
Я прыняла б гэта цяпло,—
даводзіць штось, клянецца ў нечым.
Ды так калісьці ўжо было.

*1990*

* * *

Дзеці нашы даўно захапляюцца рокам,
хай удачлівым будзе іх
з новым стагоддзем альянс...
А я з нашага выхаплю момант
натомленым зрокам:
Вы запрашалі мяне на вальс.

І сукенка была ж у мяне не
для балю,
без бліскучай аздобы,
без лішніх якіх выкрутас...
Ды глядзела вачамі, гарачага поўнымі
жалю:
Вы запрашалі мяне на вальс.

Чарнела на дахах старэнькая
мокрая гонта,
і за цюлем у вокнах калючы ўздымаўся
альяс,
а ўяўлялася мора
і пахкія ружы Таронта:
Вы запрашалі мяне на вальс.

І паветра цадзіла духмянасць
амброзій,
круг за кругам...
на неба...
на боскі Парнас.
Ну, чаму больш ніколі не захліствалі
гэткія слёзы:
Вы запрашалі мяне на вальс.

Як ахвотна нябёсы сваё расхіналі нам
ззянне,
там толькі абраных цалуюць анёлы
ў свой час...

Я баялася верыць, што будзе
зямное вяртанне:
Вы запрашалі мяне на вальс.

Завяршаецца век катаклізмамі, драмамі,
понтам,
нехта — голы кароль, хтосьці лаўравых
поўны акрас...
Я не мару пра мора
і пра пахкія ружы Таронта:
запрасіце яшчэ раз мяне на вальс.

*1989*

## Дыханне здрады

Вакол сябе зірну разгублена...
Дамы і дрэвы, што вы, што вы?
Яшчэ нічога ў нас не згублена,
парушце выгляд свой суровы!

Шапчу ледзь чутнае: «Да скорага...»,
і кожны слуп мне зараз родны,
а горад, бы заняты ворагам,—
бязлюдны,
змрочны
і халодны.

*1990*

* * *

Яшчэ не спушчана заслона.
Знаёмай драмы пераплёт...
А потым воплескі, паклоны,
змякчае ўсмешка ўладны рот.

Гульня, гульня...
Абліччаў змена.
З фартунай гульні, з пачуццём!
Якая ж гэта Мельпамена
так забаўляецца жыццём?

І ўсё ж зірні ў мой бок
хоць зрэдку,
туману мройнага нашлі...
Мне так шкада, што неўзаметку
гады Афеліі прайшлі.

*1990*

* * *

З ліпамі за кладамі
ясны прамень на «ты»!
Гэта анёл над намі
ці лёгенечкі матыль?

Голас дзяўчынкі русай
звонка ляціць праз луг...
Не знала і я, што спакуса,
як вераломны друг.

Што ў вечаровым ззянні,
чакае які спакой?
Штось назаўсёды звяне,
нешта ўзбуяе красой.

Боязна азірнуцца,
страшней паглядзець удаль.
З радасці мроі ткуцца,
з будзённасці тчэцца жаль.

Што гэта? Сэрцаў ўдары?
Ціха на грэшнай зямлі.
Знаеш, давай памарым...
Дзеці ў нас падраслі.

*1990*

## У гасцінным доме

Бярэзнік за горкаю голы,
і луг не зарос асакой,
а вецер шумліва-вясёлы
так лёгка ўварваўся ў пакой.

У ім я імгненна адкрыла
зусім не зімовы настрой,
і нейкая дзіўная сіла
ужо завалодала мной...

І чуецца духу тамленне,
то ў холад укіне, то ў жар,
як хутка малюе ўяўленне
аддалены тыднямі твар.

Прыедзеш. Я знаю пра гэта,
а ў свеце стаць лёгка чужым.
Тут пройдзе шчаслівае лета
і што, невядома, за ім.

*1990*

* * *

*Майму земляку, пісьменніку*
*Георгію Марчуку прысвячаецца*

Хто з нас не ўспомніць пладаносны сад,
яшчэ рукой нічыйнай не крануты,
і захапленне першай той мінуты,
калі на дрэве спыніцца пагляд...

Якія сокі выспелілі плод?
Пытанне гэта нас і не трывожыць.
Мы бачым, ён даспелы ўжо і гожы,
яго мы рады бачыць з году ў год.

І творца так...
                                Хто ён у плыні дзён?
Пакутнік нелюдзімы ці гуляка?
Калі нам плён душы яго відзён,
схіляемся з павагай і падзякай.

Уласнае мы цешым пачуццё.
Не знаем, ён якіх быў поўны знакаў,
з чаго смяяўся і над чым ён плакаў...
Ёсць твор!
                        У ім усё яго жыццё.

*1990*

## Лістапад

Тады там яблыні цвілі,
ды непатрэбным стаў садоўнік,
і немаведама калі
сад звёўся,— пусташ ды дзядоўнік.

Што за карысць глядзець назад,
калі душу кранае восень,
і ў новым садзе — лістапад,
а не вясновых высяў просінь!

Пад ветрам разляціцца ён...
Тут жоўты ліст, там цьмяна-рыжы,
бы кінуты да ног мільён,
што дзесь растрачаны ў Парыжы.

*1991*

## Люстра

1

Стане ў пакоі
і ціха, і пуста,
скончыцца ўзняты пяшчотаю баль...
Як жа зірну асцярожна я ў люстра,
і ў ім адаб'ецца,
магчыма, мой жаль.

Навошта загадваць такое павінна?
Агеньчык на свечцы — крыло матылька,
і гэты пакойчык, бы ў ружах даліна,
і ўспыхвае жарам раптоўным шчака.

Як доўга маўчым у гаючым паўзмроку,
сукенка завеяй абкручвае стан,
мне цяжка паверыць,
што быў ты далёкім,
што нас раздзяляў адчужэння паркан.

Бы сонечны зайчык,
свавольны і шустры,
імгненне аслепіць дыханнем тваім...
І профілі нашы сустрэнуцца ў люстры
і назаўсёды схаваюцца ў ім.

2

За што і хто папрок мне кіне?
Чужыя сцены пахнуць летам...
Прыходжу ў дом свой,— бачу іней
на жоўтых дошчачках паркету.

Мне страшна да яго дакрануцца.
Баюся,— здрадзіць раўнавага...
Між сцен чужых — мая адвага,
і як жа тут не паслізнуцца?!

3

Душы абуджанай парыў,
шчымлівай музыкі ўзнясенне...
І люстра бляск, як паўтарэнне,
прыкмет чароўнае пары.

Здаецца, выбліснуць вось-вось
з яго глыбіняў таямнічых
два ледзь прыкметныя аблічча:
маё і дзіўнага кагось...

Міжволі адступлю назад,
а музыка памкнецца ў высі...
Усё бліжэй, выразней рысы —
з паглядам стрэнецца пагляд.

Паўзмрок і валасоў рака
на плечы лягуць густа-густа...
І доўга будзе рвацца з люстра
агеньчык — крыльца матылька.

*1991*

# Бэз з вачамі Дон-Жуана

Стаялі на Лагойшчыне ля куста бэзу, які толькі што расцвіў. «Бэз з вачамі Дон-Жуана»,— нечакана сказаў Лёня Дранько-Майсюк. Гэта прагучала экспромтным радком. І я адазвалася на яго, як аказалася праз час, таксама радкамі.

* * *

Росы, бы парваныя каралі,
лыткі на гародзе апяклі.
Не сябры — заўсёды дакаралі,
а сябры — суцешыць не маглі.

Туманок, нібы дымок з кальяна,—
зап'янею, потым адыду...
І паверу слоўкам Дон-Жуана,
ён адзін развейвае нуду.

* * *

Зайздросніцаю поўня выплывала.
Фіранка трапятала на акне.
Няма ўжо тых, каго недакахала,
і з іх даўно ніхто не сніцца мне.

Ты змог вярнуць з мінулага гарэзу,
што выбегла на сонейка з імжы.
Мне весела сярод густога бэзу,
як калісь, на пялёстках варажыць.

Знайсці ў табе сваім жаданням роўню,
забыць пра ўсё, што будзе, што было,
каб толькі закаханасцю гуло...
І плюнуць на поўню!

* * *

Казка, недаказаная некім.
Мы яе дакажам да канца.
Творца мой, у кожным слове — лекі,
да якога ж рушым мы вянца?

Ты прысядзеш ціхенька на ложак,
ноч схавае ў лог сваю нуду,
на агонь, ужо апошні, можа,
я такой бязгрэшнаю іду!

Так, нібы дасюль не цалавалі,
бы й не спавівалася зусім
хмелем горкім і салодкім жалем,
жаль і хмель — усё ў табе адным.

Запацелі бэзавасцю шыбы.
Патанаю ў шэпце дарагім.
Ноч і ноч...
Самкнула вечнасць нібы
ўсе свае над намі берагі.

* * *

Рамонак сціплы ля дарожкі
прыму за добрую прыкмету,
з ног паздымаю басаножкі
і пабягу насустрач лету...

Самоціцца яшчэ зарана,
а быць шчасліваю запозна.
Навошта ж позірк Дон-Жуана
ускружвае чаканай позвай?!

* * *

Як студзень чэрвенем не стане,
так быць такога ўжо не можа,
каб я — уся русалчын танец
сплятала сёння з гронак ложак.

Чужых вачэй і губ абраннік,
спакусу тоіш і знявер,
ты нават быў не сябра ўранні
і, хто не ведаю,— цяпер?

Мне жар сустрэчы не прынадны,
ды там, дзе раска на вадзе,
мой цень распусніцай панаднай
у вечар сцішаны брыдзе...

* * *

Ты — не каханак і не друг,
а я малюся Дон-Жуану,
якому пазычае луг
свайго п'янлівага дурману.

І месяца цікаўны рог
усё шукае там прасцінку,
а бачыць мройную хусцінку,
што для мяне той луг збярог.

* * *

Палянка ў некранутасці суквеццяў,
аддушына для мрояў — ёй імя,
нібыта край зямлі ў халодным свеце,
і болей анічога ўжо няма.

Яшчэ гудуць чмялі, сваволяць восы,
і бэзавыя доўга сняцца сны,
і, можа быць, дыхне аднойчы восень
капрызам адаснёнае вясны.

Не лічаць зорак, калі ўсё ў тумане,
на небе толькі месяц, як надрэз.
Ты міма пройдзеш, раўнадушна глянеш,
а мне прыдасца — абдымае бэз...

* * *

Не помню ўжо. Магчыма нават смехам,
а можа, трапятліва і ўсур'ёз
ля бэзу верш назвала дзіўным рэхам
таемных слоў, што ранілі да слёз.

Баялася,— пакрыўдзіла Паэта.
А ён сказаў: «Не ведаю, калі
душа разгаварылася з Сусветам
і рэха засталося на зямлі».

Радкі, радкі...
                    Свет патрабуе хлеба!
І, што яму, мо толькі насмяшыш,
што дзесь Паэт вядзе размовы з небам
пра несмяротнасць слова і душы.

* * *

Пыхлівасць толькі сытым і да твару.
У жабракоў жа праўда ёсць адна:
калі Паэт, як свечку, носіць мару
агнём аднойчы ўспыхвае яна.
Страсе пялёсткі бэзу ранак з шыбы,
і раем не абернецца зямля.
На што нашчадак спіша нашы хібы,
калі зірне калісьці ён здаля
у вочы нам, але даўно памерлым?..

* * *

Збіраюцца паўсюль аблокі ў зграю,
а мне здалёку быў прарочы сон:
чакаць пакуль пачуцці заіграюць
тваім, ужо аціхлым, ва ўнісон.

Так пакручаста сцелецца дарога,
але святлее з кожным крокам твар,
нібыта ўжо даўно стаю прад Богам,
з душы атросшы дзён зямных цяжар.

За поўнач лягу і прачнуся рана,
яшчэ не сцёрся ў небе поўні зрэз,
і мроіцца... з вачамі Дон-Жуана
дзесьці цвіце маіх жаданняў бэз.

* * *

Вецер раздзімае, не шкадуе,
дзьмухаўцоў бухматыя мячы.
Ты яшчэ руку маю цалуеш,
а душа маўчыць, маўчыць, маўчыць...

Як жа забывацца мне пра гэта?
Слоўкі дарагія зберажы.
Неўпрыкметку змыюць наша лета
порсткія свавольныя дажджы.

І ніколі не дазнацца ім
з-за чаго хаджу цяпер не часта
сцежкай, дзе, вядома ж не ў маім
голасе пяюць, трапечуць астры.

* * *

Калісьці зносіцца,— няўжо?!
Гадоў, належных мне, апратка.
А далягляд заткаўся ўжо
лілова-бэзаваю згадкай.

І фарбай іншаю гадам
не распагодзіцца ніколі.
Кахання знак — чырвоны колер.
Я ўсё — за бэзавы аддам!

*Красавік — чэрвень, 2006*

# Васьмірадкоўі апошніх пацалункаў

* * *

Нават таленту не збярог,
а ўсё выхваляўся нечым...
Як след развітацца не змог,
бы знік у Сярэднявеччы.

Спакой старажытных цаглін.
Лісце ля іх, што піястры,
і ён там малюе махрыстыя астры,
што быць мне букетам калісьці маглі.

* * *

Калісьці мучыўся, сачыў...
У чаратах трымцела лодка.
Сінелі доўга касачы
дымкамі мая на ўзбалотках.

Хваліўся лепшаю з удач,
а дараваць драбніц не ўмееш,
дык для чаго тады касач
пяшчотна ўдалечы сінее?

* * *

Не быў ты ва Фларэнцыі няблізкай,
не вандраваў па тым шыкоўным месцы,
чаго ж мяне раўняеш з адаліскай
на старажытнай фларэнтыйскай фрэсцы.

Стагоддзі тояць розныя аблччы,
па іх блукаюць жабракі і франты,
і ты ўва мне не бачыш Беатрычэ
толькі таму, што сам, на жаль, не Дантэ.

* * *

Падобна, за акном падрос вішняк
ад тостаў за Еўропу і за Азію,
мы п’ём віно, здаецца нам — мальвазію,
і хочацца мне танчыць кракавяк.

Касцёл Мар’яцкі неба адамкне,
на ўзвышшы Вавель высветліцца ў бліках.
Бывай! — не ты, а «Яма Міхаліка»,
ідзі на ўсход і знойдзеш там мяне.

* * *

Жалейка, скрыпка і бубнач,
ад гукаў млосных звяла астра.
У каляндарыку пазнач:
дзень пасля Спаса. Старэ Място.

Яшчэ нічога не шкада
і нас не помніць брук памыты,
а ты руку сваю падаў,
бы разам век увесь пражыты.

* * *

Цябе шукаць між сытых скнар,
што ў пустазеллі клумбу цыній.
Адзін махляр, другі ліхвяр,
а трэці проста злосны цынік.

Пастаў іх у адзіны рад
і незайздросны ўбачыш шэраг,
які мундзір, такі й парад —
бязглузды, ваяўнічы, шэры!

* * *

О, як жа мы ўмелі пры добрай нагодзе
(бы кадр рамантычны ў любоўным кіно),
на ноч пераблытваць часы і стагоддзі,
у дзверы — няможна, ішоў праз акно...

І стрэлкі гадзіны лічылі няўзнак,
і дэтэктыў недачытаны падаў,
і муж за сцяною думаў — скразняк! —
хвілінны парыў лістапада.

* * *

Вы так спакусна падміргнулі,
што досыць — аніякіх спраў!
Гуллівы месяц свае гулі
ў аблоках лёгкіх распачаў.

Ужо займаецца дзянніца.
У крэсле зняты сарафан.
І як жа мне салодка сніцца
галавакружны ваш падман.

* * *

Руку падасць абы-абы...
Я ж адзначаю падсвядома,
яму так хочацца пабыць,
на мове свецкай, сябрам дома.

Няцяжка зразумець яго —
нядаўняга ўлюбёнца Ліры,
што не ўсвядоміць аднаго:
мяняюцца не людзі, а куміры.

* * *

У дымцы ранняга змяркання
збягае сцежка крута ўніз...
Ты ўзвёў спатканні да кахання,
а гэта проста мой капрыз.

З крыштальным туфлікам не ходзяць,
дзе заглынула ўсё дрыгва,
дзе замест мроіва — куродым,
гадзючнік з жабчыным «ква-ква».

* * *

Каб не ўкруціцца ў нейкі зман,
і ад сурокаў, і ад звягаў
далёкіх інкаў талісман
купіла для сябе ў Чыкага.

Цвіце ў ярах трава-дурман,
світанне ўспуджваюць вароны.
Самотна як! І талісман
той ад нічога не бароніць.

* * *

Калішні танец падэграс.
Мы для яго як манекены.
Не тое ўбранне, не той час,
і, зразумела, нашы сцены.

На падаконніку — альяс.
Ёсць у пакоі нехта лішні.
Гучаў так доўга падэграс,
што й ты міжволі стаў... калішнім!

* * *

Так радасна лёгка ніколі
не падала грыўка на лоб,
мы нейкія дзіўныя ролі
ігралі паўлета ўзахлёб.

З наіўнасці ўскружанай нашай
Смяяліся ўночы гудкі.
Расстаўлены крэслы... І шашаль...
І бляклай афішкі шматкі.

* * *

Пад адхонам фіялкі цвілі
і глыбелі стрыжыныя норы,
мы не згледзелі нават, калі
на цягнік пераскочылі скоры.

І знікалі за ўзмахам рукі
тыя лёгкасць і пал дыхання,
пакідаючы нам радкі,
аповесцямі пра каханне.

* * *

Тут водар укропнай грады
і шпак малады на штыхеце,
і флёксы цвітуць, як тады,
а след твой згубіўся ў тым леце...

Не помню ні слоў, ні сказаў
з той — на ўсю ноч сустрэчы,
але больш аніводнага разу
не клялася я ў нечым вечным.

* * *

Гэты пакойчык анёл нам распіша
фарбамі нейкага яснага дня...
Ты чуеш, якая нябесная ціша,
якая, нязнаная людству, плыве цішыня.

І мы забываем пра тлум і знямогу
ў палоне дасюль невядомага нам пачуцця,
нібы дзесь высока расказваем Богу
урыўкі з яшчэ недапісанай кнігі Быцця.

* * *

Не крычы, не буркай, ты не леў,
рукі пакладу табе на плечы,
будзе заўтра справа наша блеф,
а цяпер, як кажуць, шчэ не вечар.

З маладосцю ўжо не сваякі,
толькі водсвет ловіш мой дзявочы,
ды шукае на падушцы ўночы
мой румянец жар тваёй шчакі.

* * *

Не ведаю, чый ты каханак,
і чуць не хачу пра гэта,
бо ўжо здагадаўся ранак,
што я цябе выкрала з лета.

Вось толькі ты сам чамусьці
ніяк здагадацца не хочаш,
чаму перасмяглі вусны
і шчасліва смяюцца вочы.

* * *

Жаданае хуценька ляжа ў рэестры,
дзе хлеб і да хлеба і мноства выгод,
вясёлыя песні, і тосты, і фэсты
закручаны у нейкі дурны карагод.

Над вуллямі пчолы заўзята раяцца.
Расквечана поле, бо лета якраз.
І гэткія ж сны маляўнічыя сняцца,
а лепшыя кветкі цвітуць не для нас.

* * *

Важкіх апраўдванняў рой,
званкі тэлефонныя ўпотай...
Я ўсё разумею, толькі не строй
хоць зараз з сябе ідыёта.

Пчолы гудуць кішма,
радыя летнему раю...
Я і сама не тваё імя
ў снах сваіх паўтараю.

* * *

У жмінды не возьмеш і змылка,
а ў шчодрага — дзіркі ва ўсім.

Пагодзімся, выйшла памылка,
у часе не нашым стаім.
Ды кліча нас вулкі развілка
у вечнае лета без зім...

І помняцца мне тыя пахкія флоксы
на вуліцы Фоксаль, на вуліцы Фоксаль.

* * *

Пяшчоты не шкадуеш на падпітку.
Язмін цвіце. Дурман і слоў, і паху.
І яр п’янкі, казыча былка лытку.
Якое свята нам наладзіў Бахус!

А раніцай бы вывеў нас з турмы.
Затушаваў паўсюль вясёлы колер.
Нібы яму вядома ўжо, што мы
сюды не завітаем больш ніколі.

* * *

Наўкол даволі пекнаты,
патроху сцішваю жаданні.
Трапечуць свечкі ўсе ў чаканні,
і вось нарэшце радасць — ты!

А воск сцякае на абрус,
і пацяжэлі раптам плечы.
Мне даспадобы, што ты хлус:
Так... Лазня... У калядны вечар.

* * *

Не ведаю я, кім ты спапялёны,
якая крыўда выпекла да дна.
Жанчыны бы нямірныя плямёны,
калі між іх не знойдзена адна.

І я таксама, ведаю, не тая,
што зможа свет перавярнуць наноў,
ды не было ў мяне такога мая...
Даруй. Пакуль. Вяртаюся дамоў.

* * *

Аздобваем натхнёна сцены,
страсаючы гадоў дурман.
О, мы героі дзіўнай сцэны,
ўся дэкарацыя — падман.

Але яе не разбураю,
бо толькі дробязь розніць нас:
я ўсё трагедыю іграю,
а ты — забаўны нейкі фарс.

* * *

З травы падміргваюць анюткі,
штосьці блытана даводзіш мне.
Ах, божа мой, лісток танюткі,
бы шлеечка ад камбінэ.

Так, засяроджвацца не варта,
ці ж мала для размовы тэм,
а шлеечка-лісток упарта
заве ў анюткавы эдэм.

* * *

На выхадзе пагаварылі крышку...
Прыбраны стол. Адбалявалі. Годзе.
Стаяць, бы й не краналі іх, кілішкі,
на шчасце не разбіўся з іх ніводзін.

Хітрынкамі згасае свята ў зрэнках,
паціху саступае месца жалю,
але як ззяе ўся мая сукенка,
ёй дастаткова, што была на балю.

* * *

Зноў апынуліся на скразняку.
Пахне лускою і глеем.
Як трапятліва цалуе руку,
быццам у вусны не ўмее.

Чымсьці нагадвае мосцік стары
падлогу ў зацемненай келлі,
і халадок тут, бы ў манастыры,
а шчокі чамусь заірдзелі.

* * *

Усё за нас: двары, кусты
і нават шэпт цікаўны нечы...
Цяпер я ведаю, што ты
ў мінулым многае адпрэчыў.

А доказ: позіркі твае
у бок эстраднае Венеры,
што так разгублена ў фае
цярэбіць беленькі каўнерык.

* * *

...І гэта глупства. Што далей?
За шыбкаю ліхтар замерзлы.
Ты расціраеш свой алей,
іграе ў тонкіх пальцах пэндзлік.

Я не прыеду больш сюды.
Хай набірае сэнс свой драма
пад назвай дзіўнай: «Тры гады
і ноч яшчэ адна ў Адама».

* * *

А́-у... А́-у!.. Палац гатычны.
Лёг зайчык сонечны да ног.

Агеньчык бліснуў эратычны
у вашым позірку, дальбог!

Скідае пёрка голуб нам.
Любуемся разьбой калоны.
Вы штось гаворыце, а там...
бы пазяхаюць Купідоны.

* * *

Яшчэ адной зіме канец.
Шукаюць вераб'і праталін.
Куды ж вы дзеліся, ілжэц,
нібы ў авацыях расталі.

Працёрты плюш стары да дзір.
Партэр здаля глядзіцца пляцам.
Я бараніла ваш мундзір,
а вы схацелі быць паяцам.

* * *

Ну вось і скончана яна —
вясёлых клічнікаў паэма.
Любоўнай паўзы — сцяна.
Ліхтар, бы зорка Віфлеема.

«Не спакушай мяне, не зводзь...» —
гучыць, гучыць твой голас родны.
Чаму ж? Так вырашыў Гасподзь,
а шлях у Бога ўсякі годны.

* * *

Я іх не ведаю, дальбог,
саперніц... Абмінула гэта.
Пылок унепрыкметку лёг,
а я любуюся паркетам.

Прасую, строю да Каляд
сурвэтак лёгенькіх бярэма.
Так звыкла ўсё, толькі пагляд
цяжкі, бы ў старшае з гарэма.

* * *

Два гады не было лістоў
ад яго, ані чуткі, ні следу,
а пасля адазваўся ізноў:
«Сустракай. На тым тыдні прыеду».

Уяўляла, увойдзе з дарогі
ён з бярэмам бэзавых гронак,
а на ім быў гарнітур строгі
і на пальцы блішчэў заручальны пярсцёнак.

* * *

Не тыя сцены, не тыя шпалеры...
Душою і сэрцам даўно ўжо азяб.
Жывеш, бы прыкуты да лёгкай галеры, —
не вораг, не сябар, а так сабе... раб.

Ды я з наравістасцю ўпартай дзікункі,
што дзесьці на скалах далёкіх пяе,
сню доўга штоночы твае пацалункі,
і ў гэтым прызнацца мне слоў не стае.

* * *

Піць каву. Варажыць на гушчы.
Стракатых згадваць матылёў,
што і дасюль дзесь у Шлях-Пушчы
ўсё ловяць рэха нашых слоў.

І не здаралася нічога.
Мы нават не былі на «ты».

Быў лес густы. Была дарога.
І на руцэ тваёй матыль.

* * *

Жадання тайнага здабытак
зялёны плюшч, класічны Грыг...
І разам з тым сядзім, нібыта
ў непажаданы нейкі міг.

І гук да гуку — не суладна,
між гэтых сцен няўтульна Вам.
Я разумею ўсё дакладна:
«Шэршэ ля фам, шэршэ ля фам».

* * *

Пакуль... Пакуль... Шампанскае ў кілішку.
За нас яго ніхто ўжо не дап'е.
Яшчэ гартаю прыпамінаў кніжку
і ў нейкі момант загарну яе.

Цяпер ужо і гэта мне пад сілу.
Любоўны міф — прынада для дваіх,
а тое ўсё, што ў сэрцы я насіла,
перачытаю ў позірках тваіх.

* * *

Быццам лета на ложак прысела —
і спякота, і водар, і млосць.
Я ніколі дагэтуль не ўмела
з дзён мінулых вяртаць маладосць.

Пераблытаны словы і рэчы,
і трапечуць пялёсткі прасцін,
бы абсыпала рукі і плечы
гранне промняў з-за лёгкіх гардзін.

* * *

Не лічым тыдняў. Нервы рвем.
Я ўся — калючая шыпшына.
А потым... Момант — ты... Машына...
І дзесьці ўжо за Чэрвенем.

І я яшчэ ў такой красе!
З зімы лячу ў адным напрамку,
дзе ты мне першую фіялку,
жывую, з лесу прынясеш.

* * *

Хто і як, і прад кім награшыў,
не развяжа ніякае веча.
Засынаеш — так многа душы,
а прачнешся і ўздрыгнеш — пустэча!

І пранізвае дом — пустата.
Штосьці злое абкручвае га́дам.
За акенцамі — стынь і слата,
і за спінаю — звялая радасць...

# Двое на зямлі

## Радкі несустрэч

1

*З забытага сшытка*

А мне быў сон...
Як расказаць?
Як на паперы перадаць?!
Мне ён цяпер не па плячы,
хоць вобзем біся, хоць крычы —
вяртае памяць зноў і зноў
да тых даўно забытых слоў,
да тых начэй, у белы сад,
навошта мне туды назад?..

У той куток, у той язмін,
зглынуўшы дзён сваіх палын,
вярнуцца, сесці на краёк
самотнай лаўкі і здалёк
раскласці дзеі, дні, часы,
і слухаць, слухаць галасы,
што ўжо ў нябыце...
Адышлі
з расой па высмяглай зямлі.

Навошта той кругазварот?
О, колькі вёснаў ля варот
маіх з часоў тых адцвіло,
а колькі зімак адгуло!
О, верце, людзі, з тых часоў
не шыла я сабе абноў,
з сабачай вернасцю ў вачах
на попел дзьмула, ды ачах
непадуладны мне агонь,
і адзінота — на далонь,
як непазбежнасць, як прысуд
крычала: тут!

Я тут!
        Я тут!
І ўсё ж быў сон...
Я не зманю,
калі скажу —
                    быў сон з агню!
Агонь шумеў, паліў мяне,
было ж звычайна ўсё, о не!..
Звычайна там, за садам тым...
Курыўся вечаровы дым
з туману,
шоргату,
з расы...
Нібыта пад лязом касы
хвіліны падалі...
І вось —
зямная падалася вось...
Быў асцярожны ў дзверы стук,
і ўзнагародай — поціск рук
мне за чаканне ўсіх гадоў,
якія б кожны быў гатоў
аддаць за найсалодшы міг:
ты і каханы — удваіх!

Спачатку рознае...
Цыклон
з суровай Балтыкі паклон
нясе да нас і задажджыць,
туманам горад заімжыць.
Пасля пра цэны спакваля,
і вось
пра локан мой здаля,
пра вусны і ружовасць шчок,
нарэшце, начніка шчаўчок...

— О, не цяпер. Хадзем у сад,
там сярод стоеных прысад
блукае поўня, нібы лунь,
і аксамітам вабіць рунь
травы някошанай, густой...
Хадзем туды, у травастой!

Не выдасць ноч і не адна,
як гаварылі давідна!
Нясла мурожны смутак кос
яму, нібыта першы ўкос
бацькоўскай струджанай рукі,
і вочы,
быццам васількі,
мае парою той цвілі,
дзе гнёзды ластаўкі вілі.
Дзе басаногая дзятва
у час гарачага жніва
збірала ў полі каласкі...
Усё нясла!
Закон такі —
не пакідаць нішто ў душы,
жыццё сваё разварушы
і ўсё аддай —
свой першы май,
сваю пяшчоту і цяпло,
і поўні белае святло...
Усё нясі!
І я нясла.
Нібыта пырскі з-пад вясла,
прад ім ляцелі
дні,
гады,
дзе ў кожным з іх —
мае сляды!

* * *

Мінала лета.
Чэзнуў сад.
Лісця барвянага каскад
нам развітанне прадракаў.
Хто хоць аднойчы не спазнаў,
мне не паверыць, а віной
было пісьмо рукі чужой.

Самотны плён чужых начэй,
дзе словы —
боль другіх вачэй...
І там
таксама чэзнуў сад,
маліў,
прасіў аддаць назад,
вярнуць яго, бо ён не мой,
бо ён заручаны з другой.

І зноў пра рознае...
Цыклон
з суровай Балтыкі паклон
прынёс да нас, і вось дажджы,
і мы не ў садзе —
на мяжы!
Куды цяпер?
Які прысуд?
О, як няўтульна стала тут!
А там?
Што будзе за мяжой,
за тым дажджом,
за той імжой?!

Стаялі моўчкі...
— Што ж, бывай.
І мне ў адказ:
— Не забывай...
— Ты чуеш, дождж адтуль пяе.
— Ідзі, каханы, да яе...

2

*Вяртанне да раней напісанага*

Няўжо быў сон?!
Мо забыццё?
Штодзённай думкі адкрыццё?
Жывая памяць аб табе
ні дня спакою не дае!

Шукаю твой у садзе след,
цябе чакаю на абед,
навошта ж ліпы у смузе,
нібы за шчасцем у чарзе?
Навошта ж наш гасцінны двор
так рана скінуў свой убор?
Дзе лісця залатога звон,
дзе неба зорны парасон?

Не, не адкажа лістапад,
адзін хіба што зарапад
падкажа на зыходзе дня,
дзе зорка стлелая мая.
Яшчэ далёка давідна,
а ўжо на шкло майго акна
той зоркі цьмянае святло
няспетай песняю лягло!
Раптоўна захлынуўся гук
ласкавае пяшчоты рук.
Музыка, што ж ты, пачакай,
не адступай, іграй, іграй...
Музыка —
спадарожнік мой!
Ты долі родны брат маёй,
майго жыцця шчаслівы лёс
і сведка горкіх маіх слёз.
Музыка, ты ўяўленне мар,
блукаеш недзе сярод хмар,
дык напаі ж мяне вадой
з крыніцы вечнасці святой.
Не з той прычыны, каб імя
маё свяцілася штодня.
А з той прычыны, каб штодня
яго свяцілася імя!
Каб там у нейкі соты век
далёкай эры чалавек
пачуў, як вымаўляю я
адно імя —
яго імя!

3

*Адноўлены запіс*

Мігціць «паўторнае кіно».
Якое светлае яно!
І нейкі ветрагон-дзівак
для недаўмекаў-разявак
экран агромністы стварыў.
Пракручваецца фільм стары.

Стары. Стары.
У ладкі пляшчуць ліхтары.
Стары. Стары.
Гудуць у комінах вятры.

Ну, як не затрымацца тут!
Ах, што за дзівы,
што за цуд —
я нечакана пазнаю
і сад, і вуліцу сваю.

Вясёлкай свеціцца экран.
Вось толькі...
Не ўвайсці б у зман!
Ды мне, як самы лепшы гід,
здаўна знаёмы краявід.

Дзве постаці ўдалечыні.
Не бойся, сэрца, адчыні
пяшчоты жыццятворны міг.
Экран! Не зацямняй жа іх!

Ты... Ты...
Нясу праз доўгія гады
я прад сабою вобраз твой...
Ты — мой!
Ты — побач!
Ты — са мной!

Ты... Ты...
Прымаюць рэха гарады,
эфір, запоўнены табой,
шуміць, як пеністы прыбой!

А на экране той жа сад,
за кадрам — шолахі прысад,
азёрнай хвалі пераліў,
перабалелых дзён наплыў...

* * *

Страпянуся, нібыта ад болю...
Хто я, што я на гэтым свеце?!
Можа, заўтра раскінуся полем,
можа, ветрам, а можа, веццем,
ці лясною бруістай крыніцай,
да якой прыпадаю напіцца,
можа, песняю стану сваёю?!.
Адным словам — зямлёю...
Той адною,
дзе шумяць лясы,
дзе жывуць сябры,
дзе кахаюць,
дзяцей нараджаюць,
лісцем ападаюць,
зернем прарастаюць...

* * *

Сярод жытоў, сярод лясоў,
сярод знаёмых і сяброў
не звычай, не падман жыцця —
гарачы подых пачуцця!
Іду ў жыты, іду ў лясы
паслухаць птушак галасы,
але чаму не чую я
вясёлай песні салаўя?

Чаму, чаму маўчыць пяюн,
тады, як птушка Гамаюн
перабірае срэбра кос,
і мараю сячэ наўскос,
і абуджае мае сны,
з гадоў далёкіх даўніны
мяне ў мінулае заве,
туды, дзе вобраз твой жыве.
Дзе ззяе сумны Казярог,
як скрыжаванне дзвюх дарог,
кахання нашага святло
сузор'ем квеценным лягло.
Я верыць здрадзе не хачу!
Стрымаю боль, перамаўчу,
у нетрах золкай пустаты
гаючае шукаю: «Ты!»

Насупілася штосьці зіма.
Як зразумець — цяпла няма!
У стыні засмучоных дзён
твой цень праменісты відзён.
І песні сыну я пяю,
і за дваіх з ім гаманю,
і не смяюся — рагачу,
пяшчотай за дваіх плачу...

* * *

Сярод сузор'яў, сярод зор
кладзецца песенны узор...
І сярод гукаў, сярод сноў
таемнай згадкай золкіх сноў
мая дарога пралягла —
маланкі вогненнай страла.
Няхай жа ў стомленай цішы
ірвецца плач з маёй душы,
я веру запаветным дням,
як верыць ноч сваім агням:

у іх праменнасці відзён
прастор неперажытых дзён.
Я веру сонечнаму: «Мы»,
як верацЬ вулкі і дамы,
што некалі ў разгар зімы
абудзяць сонныя гаі
майго кахання салаўі.

# Змест

Самотная ў капелюшы на фоне саду. *Штэйнер Іван* *5*

*** Няхай гавораць людзі ля кіёскаў... *13*
*** Я памаўчу. Ты гавары... *14*
*** Прастора спазнаецца ў руху... *14*
*** Мне сёння прыснілася хата... *15*
*** Сярод папер, сярод лістоў... *15*
Світанне ў парку імя Янкі Купалы *16*
Верлібр, напісаны пад раніцу *17*
*** А на душы і светла, і шчымліва... *17*
Заброддзе *18*
*** Гронак рабінавых медзь *20*
Восеньскі сад *21*
*** Выпадкова машыну спыніла... *22*
Пасля дажджу *23*
*** Выпадкова, без пэўнай прычыны... *23*
*** Стракатасць выставачнай залы... *24*
Навальнічнай ноччу *24*
Жывапіс побач *25*
*** Зіма размашыста пазначыць... *27*
Апошняя сустрэча *28*
*** З табой даўно не гаманілі... *29*
*** Пасядзім, мой даўні дружа... *30*
Зорка палявая *31*
*** Падобны голас мой на ўсхліп... *32*
На балконе *33*
*** Цяпер бы лашчыць салаўю... *34*
*** Адплывуць за пясчаную выспу... *35*
*** І лістоце апалай няўлежна... *36*
*** Не прашу ні ў кога вернасці... *36*
Дзічка *37*
Першае верасня *38*
Госць *39*
Зімовы эцюд *47*

Русалчына кветка *48*
Прыцемкам у бярэзніку *48*
*** Пад соннай ёлкі калыханне... 49
*** Ля крыніцы бруістае вяне... *50*
*** Ах, нездарма жыла я ганарліўкай... *51*
*** Шчасліваму і гора дапаможа... *51*
Музыка *52*
*** Не спатрэбяцца лёгкія вёслы... *53*
*** Я з душы сваёй вырвала слова... *54*
*** Ластаўкі сядзяць напагатове... *55*
*** Даўно крыклівая малеча... *55*
Кастусь Каліноўскі *56*
Успамін пра цётку Яню *58*
*** Ужо не трэба шкадаваць... *59*
*** Чамусьці ўзяў і ўсё парушыў... *60*
*** Як ціха яблыні шумяць... *61*
Калінавік *62*
*** У тваіх блукае валасах... *63*
*** У кожным слове ёсць мастацтва... *63*
Серабранка *64*
*** Мой N... Далей не буду. Гэта грэх... *65*
*** На ўсё, на ўсё кажу: мажліва... *65*
*** Калі б я знала, што — ў гадах?.. *66*
*** За жнівом надыходзяць дажынкі... *67*
*** Жыву, як ёсць, не без заганы... *68*
*** Мяч, сынам кінуты, злаўлю... *69*
Рака *70*
*** Раптам сонечна і блізка... *71*
*** У грудзях замірае дыханне... *72*
*** Валасы — як са спелага стэпу... *72*
*** Усё бліжэй стаю да рыскі... *73*
11 мая *74*
*** Прывязацца б душою і целам... *74*
*** Нехта пазірае ўслед варожа... *75*
*** У мяне палянка ёсць за садам... *76*
*** Не пагаворым болей, як раней... *77*
Там... *78*
*** Птушка патрывожаная свішча... *79*
*** Як добра часам, што наўкол... *80*
Дзесяць васьмірадкоўяў *81*
*** Кладзецца першы снег на скроні... *84*
*** Забываць перажытыя годы... *85*
*** Цвіце ў гародчыку язмін... *86*
*** Адсмяяўся, адплакаў, атрос... *87*
*** Заместа слоў пачаўся снегапад... *88*
*** Па правадах бяжыць нячутна ток... *89*
*** Таксі праехала, і пырскі... *90*
*** Ля азерца шапоча аер... *91*
*** І я сказала: «Больш не трэба фальшу...» *92*

*** Забыць і назаўсёды адысці... *92*
Ліпа цвіце *93*
*** Кароткіх сустрэч на прыпынку не будзе... *102*
Шыпшына пры даліне *102*
*** Халодны вецер дрэў не скалане... *103*
*** Успеньвае стаялую ваду... *103*
*** На сцежку выйду палявую... *104*
*** Не дастаткам, а сэрцам расла... *105*
*** Чаму? Навошта? — што ні дзень... *105*
*** А давай, як у даўнішнім... *106*
*** Калісьці ў зелень апрануцца дрэвы... *107*
*** Прывыклі ўнукі да тэлеэкрана... *107*
*** Там рос палын густы і горкі... *108*
Напрадвесні *109*
*** Старэюць людзі, дрэвы і кусты... *109*
Рыбачка *110*
*** Пра featureрознае, ды на паўгуках... *111*
Ты гаворыш... *112*
*** Бывала, ў ціхае начы... *113*
*** Прыеду я у той куток зялёны... *114*
Вячоркі *115*
*** Усё забыць — імгненна і адразу... *117*
Саламея *118*
*** Жыву з жыцця, і можна было б лепей... *141*
У прадчуванні блізкае разлукі *142*
Стары сад *143*
*** Яшчэ ў вачах насіць жыцця святло... *143*
*** Вясёлка пёркамі паўліна... *144*
Даўняя мелодыя *145*
*** Не абяцаюць, калі ўсё — цацанка... *145*
Птушачка *146*
*** Калі ў лясах зялёных птах пяе... *147*
*** У дваццаць нуль-нуль на развілцы... *147*
*** Ледзь толькі промень жвавы... *148*
*** Пад шум ракі, пад шолахі бярозы... *149*
*** Як часта ў свеце, бы ў бязладнай хаце... *150*
*** Ізноў вяртацца ў сталасць з маладосці... *150*
*** Зачэпіцца сонца за снежную горку... *151*
Вера *151*
Вершы без апошняга радка *152*
Доля *161*
*** Не кожны мае ўладу, як халіф... *161*
*** Калі нехта пяшчоту забраў... *162*
*** Здзіўляемся загадцы Баальбека... *163*
*** Хмелю расцвіўшага гронка... *164*
Дзень. Вечар. Раніца *165*
*** Ўсё, што ўчора было яшчэ марай... *166*
*** Адорыць глеба рупны клопат злакам... *167*
*** Колькі казак сама расказала... *168*

Любоў *169*
Кулёма *170*
Ва ўрочышчы маліннік *171*
Паэзія *173*
Паралель *173*
*** З пяшчоты словы зноўку ткуцца... *174*
*** Вось і заві бяседу мілай... *174*
*** І сняжынка шукае прытулку... *175*
Загедан *175*
*** Пра якія такія любошчы... *176*
*** Ішлі на ясны і вялізны... *177*
*** А дзень на сад святлом пральецца... *177*
Eugenio *178*
*** Сырое неба. Каляіны... *183*
*** Не трэба мне надакучаць... *184*
*** Не схацела паклікаць у госці... *184*
Чуеце, зноў наплывае яна... *185*
*** Адспявалі вясёлыя шыны... *186*
Цыкламены *187*
*** У лёгкіх рухах чуе здраду... *188*
*** А ты, лісток, зусім як сэрца... *189*
*** І ніколі ўжо не паўторыцца... *190*
*** Не сустрэўшы,— таропка праводзім... *191*
*** Гэта ж проста восень адшумела... *192*
*** Непадуладна ні вятрам, ні сцюжы... *193*
*** З адвагай рыцара-гулякі... *194*
Краявід з хваляй *194*
*** Шумела Свіслач, парк звінеў... *195*
Паляна *196*
*** Жыццё, жыццё — начэй і дзён паток!.. *197*
*** ...І растрывожыць халадок нізіны... *197*
*** У гэты горад прыляцяць гракі... *198*
*** Не трэба папракаць у здрадзе... *199*
Пад грушай у час дажджу *200*
*** На беразе за самаробнай вышкай... *201*
*** О, я не ў сон глухі закута... *202*
Рабінавая гронка *203*
*** Нічагусенькі не зменіцца... *204*
Мазурка *205*
*** Дзіўлюся, нібы рэдкай навіне... *206*
За дзень да снежня *206*
*** Не адцвітала доўга бульба ў полі... *207*
*** А ён ляціць, ляціць, як ашалелы... *207*
*** Прыйдзі, прыйдзі... *208*
*** Ты, магчыма, словы пераблытаў... *209*
*** Папялушка! — ўздрыгваюць кусты... *210*
*** Мільёны дзён мяне кахаў... *210*
Дзве гадзіны навагодняй ночы *211*
Успамін *212*

*** Пераплятуцца гукі «дж» і «дз»... *213*
*** У час вясновых шумных вод... *214*
*** Разлічваць на які яшчэ прыём?.. *215*
Снег *216*
Пачуццё *217*
*** Разрасліся шумлівыя кроны... *218*
*** На ўзгорку дуб... *219*
*** Хлуслівы не прызнаецца ў хлусні... *219*
*** Былі нядаўна дрэвы ўсе ў журбе... *220*
*** Ці не пупышкі хіляць голле ўніз?.. *221*
Надзея 221
*** Разлуку ў хуткім часе напрароч... *222*
*** Усё цудоўна! Бусліны клёкат... *223*
*** Не спадзявайся, а жыві... *223*
*** Любіць жанчына слыхам... *224*
*** Жыву, і, дзякуй, не ў прасторы голай... *224*
*** Ведаю, твар мой аднойчы прысніцца... *225*
*** О колькі крыўды,— ён мой вязень!.. *225*
Партрэт жонкі Станіслава Ксаверыя Прушынскага
XVIII стагоддзя *226*
Нішто не вечна... *227*
*** Лета дыхала месяц грамамі... *227*
*** Калі адчай, хоць закрычы... *228*
*** Шалее д'ябал ад сваіх забаў... *229*
*** Дыхнула хвояй з-за фіранак... *229*
*** Дзеці нашы даўно захапляюцца рокам... *230*
Дыханне здрады *231*
*** Яшчэ не спушчана заслона... *232*
*** З ліпамі за кладамі... *233*
У гасцінным доме *234*
*** Хто з нас не ўспомніць пладаносны сад... *235*
Лістапад *236*
Люстра *237*
Бэз з вачамі Дон-Жуана *239*
Васьмірадкоўі апошніх пацалункаў *244*
Двое на зямлі *257*

